№№123–124
(3662–3663)
10 жніўня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*


www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

СКАНДАЛ

## Ваяваць дык ваяваць!

***Да 30 жніўня Пасольства Швецыі ў Мінску павінна “вызваліць памяшканні”. Дыпламатычная вайна паміж Беларуссю і Швецыяй выйшла на новы віток.***

МЗС Беларусі адклікае сваё пасольства са Швецыі і патрабуе ад Стакгольма, каб ён зрабіў тое самае да 30 жніўня. Так беларускі бок адрэагаваў на рашэнне МЗС Швецыі аб высылцы са Стакгольма двух беларускіх дыпламатаў у адказ на адмову працягнуць акрэдытацыю шведскаму паслу ў Мінску Стэфану Эрыксану.

*“Беларускі бок зыходзіць з таго, што ўсе супрацоўнікі шведскай амбасады ў Беларусі з 30 жніўня страцяць свой статус”,* — гаворыцца ў заяве МЗС. Пры гэтым беларускі бок падкрэслівае, што гаворка пра разрыў дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Швецыяй не ідзе.

Падобна на тое, што такая сенсацыйная навіна шмат для каго стала нечаканасцю. Праз некалькі гадзін пасля таго, як стала вядома, што беларускі бок даў каманду збіраць чамаданы, Аляксандру Лукашэнку нават патэлефанаваў прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін. Зразумела, што прэс-службы напрамую не звязваюць гэты званок з беларуска-шведскім канфліктам, але не сакрэт, што шмат хто ў Еўропе ўжо прытрымліваецца думкі: маўляў, утаймаваць беларускага кіраўніка здольны толькі кіраўнік расійскі. Таму не выключана, што менавіта з падачы еўрапейскіх сяброў Пуцін па сваёй ініцыятыве раптам патэлефанаваў Лукашэнку.

### ДАСЛОЎНА



Карл Більт, міністр замежных спраў Швецыі, пракаментаваў сітуацыю ў інтэрв’ю шведскаму агенцтву навін.

*“Лукашэнка паводзіць сябе як бандыт. Я не ведаю, чаму яны пайшлі на эскалацыю. Ні для каго не сакрэт, што іх вельмі раздражняе наша праграма па дэмакратыі на працягу доўгага часу, і іх гнеў проста цяпер выбухнуў. Няма сумневаў, што сам прэзідэнт стаіць за гэтым”,* — заявіў Карл Більт.

Як бы тое ні было, кіраўнік прэс-службы МЗС Швецыі Андэрс Ёрле паведаміў, што да канца жніўня ўсе шведскія дыпламаты пакінуць Мінск. Але аб адэкватным адказе Мінску думаюць не толькі ў Стакгольме, але і ў Брусэлі. Тут у пятніцу, 10 жніўня, у другой палове дня, адбудзецца надзвычайнае пасяджэнне паслоў краін ЕС. Як паведамляе польскае агенцтва PAP са спасылкай на крыніцы ў ЕС, на ім *“будзе выпрацаваны адказ Еўрасаюза на рашэнне беларускага рэжыму аб высылцы з Мінска супрацоўнікаў пасольства Швецыі”.*

Дарэчы, гэта будзе надзвычайная нарада, бо паводле планаў чарговае пасяджэнне паслоў павінна было адбыцца толькі 31 жніўня.

### АФІЦЫЙНА



Дыпламатычны канфлікт са Швецыяй і інцыдэнт з незаконным палётам над Беларуссю шведскага самалёта ніяк не звязаны, заявіў Аляксандр Лукашэнка, размаўляючы 9 жніўня з журналістамі ў Астравецкім раёне.

*“Некаторыя звязваюць гэтую праблему ці то з плюшавымі мядзведзямі, ці то са сланамі. Але гэта абсалютна розныя рэчы”,* — цытуе Лукашэнку дзяржаўнае агенцтва БЕЛТА.

Паводле яго слоў, Беларусь і Швецыя раней дамаўляліся абмяняцца новымі пасламі, аднак гэтыя дамоўленасці былі парушаны шведскім бокам, у выніку чаго і паўстаў цяперашні дыпламатычны канфлікт.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ВЫБАРЫ-2012

## *Вам тут не месца!*

Жлобінскі раённы выканаўчы камітэт на чале з намеснікам старшыні райвыканкама Віктарам Касцяйковым правёў пасяджэнне па фарміраванні складу ўчастковых выбарчых камісій. Вынік пасяджэння — па Жлобінскай акрузе ў склад камісій не трапіла ніводнага прастаўніка ад дэмакратычных сіл.

— Упершыню мы сутыкаемся з такой сітуацыяй, — кажа доўгатэрміновы назіральнік па Жлобінскай выбарчай акрузе Галіна Каян. — На мінулых выбарах у склад участковых камісій траплялі і камуністы, і прадстаўнікі іншых рухаў, а цяпер — нікога.

Па Жлобінскай акрузе ў склад камісій спрабавалі трапіць 12 прадстаўнікоў партыі левых “Справядлівы свет”, а таксама адзін прадстаўнік ад Партыі БНФ.

— Пасяджэнне цягнулася ўсяго 11 хвілін, — распавяла Галіна Каян. — З дакладам выступіў намеснік старшыні райвыканкама Віктар Касцяйкоў, які хутка зачытаў інфармацыю пра колькасць прэтэндэнтаў (усяго іх было 771) і колькасць тых, хто трапіў у склад камісій (такіх атрымалася больш за 540 чалавек). Прозвішчы прадстаўнікоў у склад камісій не называліся: проста сказалі, што пры галасаванні ўлічваўся вопыт, дзелавыя якасці прэтэндэнтаў, а таксама давер да іх працы.

Паколькі тлумачэнне амаль слова ў слова падобна на мінскае, то лёгка здагадацца, што менавіта такім быў “цыркуляр” зверху.

Дарэчы, па Жлобіне балатуецца ў дэпутаты вядомы мясцовы апазіцыянер, былы намеснік начальніка цэха БМЗ, шматгадовы кіраўнік мясцовай суполкі партыі “Справядлівы свет” Валерый Рыбчанка.

## *Палітыкі — хто куды, а выбаршчыкі — за байкот*

Па крайняй меры так сцвярджае лідар Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, які асабіста прыняў удзел у перадвыбарным пікеце, які быў выстаўлены ля Камароўскага рынку ў Мінску.

*“Сто працэнтаў людзей, якія падыходзяць, супраць таго, каб удзельнічаць у выбарчым фарсе”,* — падзяліўся Анатоль сваімі ўражаннямі ад размоў з людзьмі.

Нагадаем, што АГП вылучыла сваіх кандыдатаў у Палату прадстаўнікоў толькі дзеля таго, каб мець магчымасць удзельнічаць у інфармацыйнай кампаніі. Усе яны перад выбарамі на знак пратэсту супраць таго, як праходзяць беларускія выбары, здымуць свае кандыдатуры.

## *«Стэрылізацыя» пад Мілінкевіча*

Адміністрацыя Першамайскага раёна Мінска прыняла рашэнне наконт складу выбарчых участковых камісій — у тым ліку па Уручскай 109-й акрузе, па якой кандыдатам у дэпутаты вылучаецца былы кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Мілінкевіч. Выбаркамы будуць “стэрыльныя”.

Адміністрацыя Першамайскага раёна ўжо агучыла інфармацыю пра тое, прадстаўнікі якіх партый і арганізацый будуць лічыць галасы ва Уручы. Гэткіх людзей знайшлі пераважна ў “Белай Русі”, БРСМ, Беларускім фондзе міру, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Беларускай аграрнай партыі, Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі, Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці, Камуністычнай партыі Беларусі.

У той жа час у склад участковых выбарчых камісій Уручскай выбарчай акругі №109 былі вылучаны 52 прадстаўнікі Аляксандра Мілінкевіча, з іх 42 чалавекі прадстаўляюць Беларускую партыю “Зялёныя”, Партыю БНФ і грамадскае аб’яднанне “БНФ-Адраджэньне”. З іх у склад участковых выбаркамаў не трапіў ніхто.

Сваё рашэнне кіраўніцтва Першамайскага раёна сталіцы патлумачыла так: маўляў, у камісіі былі ўключаны асобы, якія мелі адпаведны досвед падчас мінулых выбарчых кампаній, “сумленныя і прыстойныя”, а таксама “маючыя аўтарытэт і павагу ў сваіх працоўных калектывах”.

Тым не менш Аляксандр Мілінкевіч па-ранейшаму ўдзельнічае ў выбарах і здымаць сваю кандыдатуру не збіраецца.

П’ЕДЭСТАЛ

## Наша Надзея!



Што б ні казалі пра несправядлівасць судзейства на Алімпіядзе, але калі ты на галаву вышэй за сваіх супернікаў, то нішто ім не дапаможа. **Надзея Астапчук** не проста заваявала золата Алімпіяды, але дэмаралізавала ўсіх, хто меў ілюзіі наконт таго, што з беларускай можна пазмагацца. І ў Лондане, на лёгкаатлетычнай арэне, і ў Мінску, бо Надзея Астапчук вядома як чалавек ідэйны, прынцыповы, які ўмее сказаць праўду ў лоб.

Атрымаўшы доўгачаканае алімпійскае золата, Надзея не магла стрымаць слёз. Свайго сапраўднага трыумфу яна чакала амаль 20 гадоў. І дачакалася!

А ў вёсцы Вялікія Арлы на Століншчыне не магла стрымаць слёз яе бабуля — Аляксандра Іванаўна Чупік. 82-гадовая жанчына плакала ад шчасця і ад гора аднначасова. Найперш таму, што яе дачка Валянціна — маці Надзеі — не дажыла да такога светлага моманту. Сама Аляксандра Іванаўна ўсё жыццё адпрацавала на ферме, вырасціла пяць дачок, а цяпер ганарыцца ўнучкай, якая праславілася на ўвесь свет.

*“Дзякуй вам за віншаванні, за добрыя словы... Я яе маленькую гадавала, яна паслухмяная была, заўсёды слухала бабулю. Такая ў мяне ўнучанька добранька. Таму, зразумела, што я за яе вельмі радая. Мне ўжо потым суседзі паказалі па тэлевізары, як яна перамагла, я сама не глядзела, не той ужо ўзрост. Парадавалася, канечне, але і расстроілася, паплакала. Бо мая дачачка ўжо не бачыла, як ейная дачушка заваявала той медаль...”*

Бабуля Аляксандра кажа, што Надзея, як выпадае час, заўсёды наведвае яе, дапамагае, кліча да сябе ў Мінск. *“Надзька прыязджае, дапамагае мне, бо вельмі клапатлівая,* — расказала журналістам Аляксандра Іванаўна. — *Я ж яе як гадавала, то таксама заўсёды шкадавала, яна вельмі добрая была. Хай ёй гасподзь дапамагае. Я малюся Богу, каб усім дапамагаў і маёй унучачцы таксама... Вось як прыязджае, мяне адведае, і ўдвох мы ідзём на могілкі. Неяк як заехалі, яна так расстроілася, нават я спужалася — так плакала па маці, аж абняла помнік. Валяй яе маці звалі...”*

Маці Надзеі Астапчук да гэтага дня радасці не дажыла, а бацька Надзеі — Мікалай Васільевіч Аступчук — прымаў віншаванні літаральна на рабочым месцы. Ён працуе ў мясцовай ПМК, і раніцай на планёрцы калегі-меліяратары так шчыра віталі бацьку чэмпіёнкі, нібы свята прыйшло ў кожны дом на Століншчыне.

Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Надзею Астапчук адразу пасля таго, як стала вядома пра яе трыумфальную перамогу і ўзнагародзіў спартсменку ордэнам Айчыны трэцяй ступені.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

## Цудоўны квартэт



Адразу чатыры беларускі ўзышлі на алімпійскі п’едэстал. **Вольга Худзенка, Надзея Папок, Марына Палтаран і Ірына Памелава** заваявалі бронзавы медаль у спаборніцтве на байдарках. Медаль, на які амаль ніхто не спадзяваўся.

Адразу пасля цырымоніі ўзнагароджання дзяўчаты павесілі свае чатыры медалі на шыю трэнеру Генадзю Галіцкаму і ледзь не зацалавалі яго.

Сапраўды, можа, толькі трэнер ды самі дзяўчаты спадзяваліся на гэты медаль. Адзін толькі факт: самая старэйшая з беларусак, якія ўзышлі на алімпійскі п’едэстал, аказалася маладзейшай за самую малодшую з саперніц. Хаця з немкамі і прадстаўніцамі Венгрыі маладыя беларускі змагаліся на роўных.

“Мы ім яшчэ пакажам!” — радавалася пасля медальнага фінішу наша Ірына Памелава. І сапраўды, ёсць чаму радавацца: упершыню ў гісторыі суверэннай Беларусі жанчыны заваявалі медаль у веславанні на байдарках.

## Брат за брата



У Пекіне яны былі першымі, у Лондане сталі другімі. Гэта якраз той выпадак, калі алімпійскі медаль выклікае комлекс эмоцый: і радасць, і расчараванне адначасова.

У фінале на тысячаметровай дыстанцыі **Аляксандар і Андрэй Багдановічы** саступілі нямецкай пары. І прымусілі ўсіх пахваляваца, “заседзеўшыся” на старце.

Цікава, што гэтыя хлопцы нарадзіліся ў пасёлку Елізава, дзе ўвогуле не было секцыі веславання. Але, як кажуць, лёс ёсць лёс — яго не абыдзеш і не абплывеш.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Закладнікі?

Прадстаўніку агенцтва нерухомасці Сяргею Башарымаву, з якім грамадзяне Швецыі вялі перамовы аб зняцці кватэры, і студэнту Інстытута журналістыкі БДУ Антону Сурапіну, які размясціў здымкі скінутых цацак на сваім сайце, прад’яўлена абвінавачанне.

Пра гэта амаль праз месяц пасля затрымання паведаміў Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

*“У інтарэсах аб’ектыўнага расследавання крымінальнай справы і высвятлення ўсіх акалічнасцяў парушэння паветранай прасторы Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі Камітэтам дзяржаўнай бяспекі прапануецца падданым Швецыі, якія прынялі ўдзел у арганізацыі і ажыццяўленні незаконнага перамяшчэння праз дзяржаўную мяжу, прыбыць у Мінск для ўдзелу ў следчых дзеяннях у якасці падазроных, у тым ліку для правядзення вочных ставак”,* — заявілі ў КДБ.

У камітэце таксама патлумачылі, што па выніках гэтых дзеянняў будуць прыняты канчаткова адпаведныя працэсуальныя рашэнні ў дачыненні да беларускіх грамадзян, якія праходзяць па крымінальнай справе.

Паведамляецца, што КДБ заведзена і расследуецца крымінальная справа па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч.3 арт.371 КК Рэспублікі Беларусь па факце незаконнага перасячэння 4 ліпеня дзяржмяжы Беларусі падданымі Каралеўства Швецыя на лёгкаматорным самалёце. Па падазрэнні ў дапамозе ў здзяйсненні гэтага злачынства затрыманы грамадзяне Рэспублікі Беларусь А.А.Сурапін і С.А.Башарымаў, якім прад’яўлена абвінавачанне па ч.6 арт.16 (дапамога ў здзяйсненні злачынства) і ч.3 арт.371 (незаконнае перасячэнне Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь) Крымінальнага кодэкса Беларусі.



Старшыня юрыдычнай камісіі РПГА “Беларускі Хельсінкскі камітэт”, у мінулым — суддзя і вядомы адвакат Гары Паганяйла пракаментаваў навіну прэс-службе ГА Беларуская асацыяцыя журналістаў”. *“Вязні СІЗА КДБ Сурапін і Башарымаў фактычна знаходзяцца зараз у пазіцыі закладнікаў,* — гаворыць Паганяйла. — *Імі проста шантажуюць — маўляў, можа, і адпусцім, калі нехта сюды прыедзе і дасць паказанні... Гучаць словы пра неабходнасць вочных ставак, допытаў, каб высветліць, наколькі аб’ектыўна прад’яўлена абвінавачанне беларускім грамадзянам. Значыць, у следства не было дастатковых даных аб датычнасці гэтых асоб да здзяйснення правапарушэння? Гэта не адпавядае ні нормам Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, ні традыцыям, якія існуюць у дэмакратычных дзяржавах пры перасследзе за крымінальныя злачынствы. Калі б усё было цывілізавана і дэмакратычна, ніхто не перашкаджаў бы нашым інстанцыям накіраваць адпаведныя запыты ў пракуратуру Швецыі наконт допыту датычных да правапарушэння грамадзян гэтай краіны. І такім чынам, не дамагаючыся іх прыезду сюды, атрымаць неабходныя звесткі. Сама дзяржава, канешне, наўрад ці выдасць сваіх грамадзян, але яны маглі б прадаставіць неабходныя звесткі па абставінах узбуджанай у Беларусі крымінальнай справы...”*

**Павел САМОЙЛІК.**

ЗВАР’ЯЦЕЦЬ!

## *Абсурд не мае межаў*

“У іх быў мядзведзь, і яны размаўлялі”, — так міліцыянеры тлумачылі ў судзе прычыну затрымання журналістак Юліі Дарашкевіч і Ірыны Козлік. За такое “правапарушэнне” дзяўчаты ноч правялі ў пастарунку і толькі раніцай былі дастаўлены ў суд.

Такіх пратаколаў затрымання гісторыя беларускага правасуддзя яшчэ не бачыла, такіх “правапарушэнняў” не ведала. Паколькі дзяўчаты размаўлялі і трымалі ў руках плюшавага мядзведзіка, то міліцыянеры вырашылі, што гэта... незаконны пікет.

Сапраўды, абсурд не мае межаў!

На самай справе адбылося вось што. Ужо некалькі дзясяткаў прадстаўнікоў незалежных СМІ ў знак салідарнасці з арыштаваным Антонам Сурапіным зрабілі свае фотаздымкі з плюшавымі мядзведзікамі і размясцілі іх у інтэрнэце з заклікам “Свабоду журналісту!”. Прычым кожны дзень да акцыі далучаюцца ўсё новыя людзі. У дзень арышту Юлія Дарашкевіч фатаграфавала з мядзведзікам карэспандэнта газеты “Комсомольская правда в Белоруссии” Ірыну Козлік. Гэта не быў пікет ці нейкае іншае публічнае мерапрыемства, на якое трэба браць дазвол у Мінгарвыканкаме. І толькі ў хворую галаву магло прыйсці ўбачыць у гэтым правапарушэнне. Ды яшчэ якое! “Пікетаванне шляхам фатаграфавання” — да гэтага яшчэ трэба было дадумацца! Але суддзя Савецкага раённага суда Дзмітрый Паўлючэнка “выпісаў” за гэта дзяўчатам па 3 мільёны рублёў штрафу.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Падстаў не маецца?

Праваабаронцы, якія заклікалі Генпракуратуру і Вярхоўны суд да абмеркавання праблемы неабгрунтаваных затрыманняў, атрымалі адказ на свой зварот.

Начальнік аддзела Генпракуратуры па наглядзе за захаваннем праў і свабод грамадзян М.В.Папова, па сутнасці, абмежавалася бюракратычнай адпіскай, паведаміўшы кіраўніку РПА “Беларускі Хельсінкскі камітэт” “Гулаку А.Л. і інш.” літаральна наступнае. *“...з улікам таго, што Вы не з’яўляецеся асобай, якой ва ўстаноўленым законам парадку дэлегаваны правы на прадстаўніцтва інтарэсаў пералічаных у звароце грамадзян, дастатковых падстаў для разгляду Вашага звароту па сутнасці не маецца”.*

Пры гэтым М.В.Папова спасылаецца на артыкул 2.16 ПВКаАП, згодна з якім права абскарджвання працэсуальных дзеянняў ці пастаноў, прынятых па справах аб адміністрацыйных правапарушэннях, маюць асобы, у адносінах да якіх вядзецца адміністрацыйны працэс, абаронца, пацярпелы, законны прадстаўнік, сведка, эксперт, спецыяліст, перакладчык, паняты і іншыя асобы, якія ўдзельнічаюць у адміністрацыйным працэсе.

У іншым выпадку прадстаўніцтва інтарэсаў грамадзян пры звароце ў дзяржаўны орган, іншую арганізацыю ажыццяўляецца на падставе акта заканадаўства Рэспублікі Беларусь, або акта ўпаўнаважанага на тое дзяржаўнага органа ці органа мясцовага самакіравання, або даверанасці, аформленай у парадку, устаноўленым грамадзянскім заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Аднак нагадаем, што праваабаронцы ў сваім звароце прасілі не аб прадстаўленні інтарэсаў грамадзян у адміністрацыйных працэсах, а толькі аб сустрэчы з генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь, старшынёй Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь з мэтай абмеркавання сітуацыі і спынення незаконай практыкі і прыцягнення вінаватых да адказнасці. Адказу па сутнасці з Генпракуратуры яны не пачулі.

Адзін з самых вядомых беларускіх праваабаронцаў Валянцін Стэфановіч пракаментаваў сітуацыю так: *“Прадстаўнікі праваабарончых арганізацый Беларусі выказалі сваю заклапочанасць тым, што ў краіне ўжо фактычна сталі нормай незаконныя адвольныя, палітычна матываваныя затрыманні і арышты грамадскіх і палітычных актывістаў. І вельмі прыкра, што ў гэтыя працэсы ўцягнуты не толькі прадстаўнікі МУС, але і суддзі. Вось менавіта гэтую праблему мы і планавалі абмеркаваць з высокапастаўленымі чыноўнікамі, у абавязкі якіх уваходзіць абарона законных правоў грамадзян краіны. Мы не звярталіся са скаргамі на вынесеныя судамі пастановы і не збіраліся прадстаўляць гэтых грамадзян у дзяржаўных органах і ўстановах. Шкада, што Генеральная пракуратура па-страусінаму ўхілілася ад прапановы праваабаронцаў”.*

БЛІЦ

## *Калі б выбары заўтра...*

“Калі б заўтра зноў адбыліся выбары прэзідэнта Беларусі, за каго б вы прагаласавалі?”. Прозвішча дзейнага кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі ў адказ на гэтае пытанне назвалі каля 30% рэспандэнтаў.

Такія вынікі чэрвеньскага апытання грамадскай думкі агучыў зарэгістраваны ў Літве Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў.

Каментуючы гэтыя вынікі, палітолаг Сяргей Нікалюк адзначае, што асноўным вызначальным фактарам для насельніцтва з’яўлецца ўзровень іх даходаў:

— Тыя паляпшэнні, якія адбыліся ў эканоміцы, выйшлі на сваё плато, адбылося насычэнне, і той узровень стабільнасці, які мы сёння маем, не задавальняе насельніцтва. Цэны працягваюць расці, і насельніцтва рэагуе на гэта дастаткова балюча.

Сяргей Нікалюк прагназуе, што перад парламенцкімі выбарамі істотных змен у рэйтынгу кіраўніка дзяржавы не павінна адбыцца.

Сёлета ў сакавіку рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі, паводле незалежных даследаванняў, складаў 34,5%. Эксперты НІСЭПД адзначаюць, што рост рэйтынгу, звязаны са стабілізацыяй эканамічнай сітуацыі ў краіне, спыніўся і цяпер пачаўся зваротны працэс.

ПАЛІТКУХНЯ

## *Яраслаў Берніковіч выходзіць з Партыі БНФ*

*Глыбоцкі актывіст Яраслаў Берніковіч спыняе сваё членства ў Партыі БНФ. Ён не падзяляе пазіцыю партыі адносна ўдзелу ў парламенцкіх выбарах.*

Нагадаем, што на з’ездзе Партыі БНФ, які адбыўся ў Мінску 4 жніўня, было вырашана вылучыць кандыдатаў, але зняць іх за пяць дзён да выбараў у выпадку, калі да таго часу палітвязні будуць заставацца за кратамі. Пра Берніковіча гаворка зайшла ўжо на партыйным з’ездзе. Калі дэлегаты вызначаліся са спісам партыйных вылучэнцаў, то сакратар Управы Партыі БНФ Алесь Каліта выступіў супраць вылучэння Берніковіча. *“Партыя БНФ выкарыстоўвае выбары ў сваіх мэтах, а Берніковіч выкарыстоўвае Партыю БНФ у сваіх мэтах. Ён крывадушнік”,* — заявіў Алесь Каліта. Самога Берніковіча на з’ездзе не было. Зараз ён актыўна супрацоўнічае з камандай Уладзіміра Някляева, якая трымаецца пазіцыі, што ў выбарах трэба ўдзельнічаць.

На парламенцкіх выбарах 2004-га і 2008 гадоў Берніковіч вылучаўся ў Глыбоцкай акрузе, але сёлета ён вылучаецца ў Наваполацкай акрузе. Сцвярджае, што весці перадвыбарную кампанію ў вялікім горадзе значна прасцей. Але, напэўна, Яраслаў проста згубіў надзею перамагчы на выбарах былога старшыню Віцебскага аблвыканкама і кіраўніка Палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Андрэйчанку, які якраз па Глыбоччыне і ідзе, але мару трапіць у дэпутаты ўсё ж такі не страціў.

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Чаму Аляксандр Барушкоў не стаў прэзідэнтам…

*Днямі ў судзе Маскоўскага раёна Мінска непрыкметна і руцінна разглядалася адна вельмі цікавая грамадзянская справа. З аднаго боку, нічога незвычайнага — ісцу адмовілі па ўсіх пазіцыях. З другога — ісцец прасіў спагнаць мільярд рублёў маральнай кампенсацыі з Міністэрства аховы здароўя. Усяго мільярд за... зламанае жыццё.*

"Чаму менавіта адзін мільярд, а не пяць ці два?" — спытала суддзя **Вольга Гусакова.** "А мне аднаго дастаткова, каб адчуць сябе мільярдэрам", — адказаў ісцец **Аляксандр Барушкоў**.

Каб зразумець, у чым сутнасць справы, трэба вярнуцца ў далёкі 1975 год. Тады сярэднестатыстычны грамадзянін БССР, аматар сатырычных памфлетаў з вёскі Жмураўка Рэчыцкага раёна зрыфмаваў пару сказаў з нагоды чарговай узнагароды генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Брэжнева. Кіраўнік краіны атрымаў тады новыя зоркі на пагоны, а мясцовы дысідэнт Аляксандр Барушкоў дадумаўся павіншаваць яго. Прычым напісаў пра пчолак, якія кружацца вакол пагонаў "дарагога Леаніда Ільіча", а кружацца яны з-за таго, што "любяць ліпу". Ці мог тады Аляксандр і яго землякі ўявіць сабе, які "ганарар" атрымае аўтар?

Перад мной мужчына са стомленым тварам і жывымі вачыма. Аляксандр Барушкоў распавядае:

*— Праз два дні за мной прыехалі з Рэчыцкага КДБ. Прывезлі ў аддзел... Артыкул "свяціў" мне за асабліва злоснае хуліганства. Да сямі гадоў. Але ж гэта ўжо былі не сталінскія часы. Пачалі ціснуць. Павезлі ў Гомельскую псіхбальніцу. Там кажуць: "Ты што, сапраўды дурны? Так атрымаеш сем гадоў турмы, а калі мы напішам, што ты хворы, то паўгода паляжыш і ўсё". Нават сваякоў падключылі, каб дапамаглі мяне ўламаць. Але я не пагаджаўся. Што я такога зрабіў? Карацей, такім чынам я і патрапіў у псіхушку. А потым пайшло і паехала. Я з 1975-га па 1980 год правёў у Магілёўскай спецбальніцы. Ніхто не ведае, што гэта за пекла... Чаго толькі там не было! Было і такое, што 5—6 салдат адчыняюць камеру і называюць прозвішча каго-небудзь з палаты: "На выхад!". А потым толькі чуеш здаўлены крык і падзенне... Гэта яны ўдары адпрацоўвалі... Ці могуць вырубіць чалавека з аднаго ўдару... Было такое, што ў ванне тапілі... У мяне тады была адна мэта — выжыць і выйсці на волю з мінімальнымі стратамі. Але мне прызначалі такія ўколы і таблеткі, што вымушаны быў падманваць урача Надзею Іванаўну Башкірцаву. Імітаваў, што атрымаў сваю порцыю, бо інакш і сапраўды стаў бы не чалавекам, а раслінай...*

Са шпіталя Аляксандр выйшаў з падарваным здароўем. У медыцынскай картачцы пра гэта сведчыла сухая фармулёўка — другая група інваліднасці. Да таго ж заставаўся дыспансерны ўлік, прычым у той жа картачцы чырванеў трохкутнік — своеасаблівая пазнака, што хворы мае статус "сацыяльна небяспечнага". Ледзь здолеў уладкавацца на працу мантажнікам, бо электрыкам працаваць было забаронена.

*— Дарэчы, за Чарненку я таксама атрымаў 3 месяцы. Напісаў: "Несут немоглого на трон, чтоб зачитал он там шпаргалку. Как воздух нам необходим закон: рухлядь старую — на свалку". За Гарбачова далі на адзін месяц меней... У 1985-м мяне звольнілі. Я восем судоў прайшоў: мяне ж звольнілі з працы за прагул, калі я быў у псіхушцы. Нарэшце, пастанавілі аднавіць і нават выплаціць грошы за вымушаны прагул.*

**— Але пасля развалу Саюза сітуацыя змянілася, карную псіхіятрыю асудзілі, такіх "хворых", як вы, рэабілітавалі, знялі з уліку. Чаму ўжо тады вы не паспрабавалі прыцягнуць да адказнасці медыкаў, якія вас, здаровага чалавека, прымусова накіроўвалі ў псіхіятрычныя бальніцы?**

*— Мяне знялі з уліку ў 1992 годзе. Але сказалі пра гэта толькі ў 2002-м. Ды яшчэ ўвесь гэты час пагражалі, што зноў "упякуць". На рукі мне не далі ніякіх папер. Разумееце, калі б было такое магчыма, то я аддаў бы мільярд рублёў галоўнаму псіхіятру, каб ён мог пражыць хаця б маленькую долю таго, што я пражыў. Мне ж зламалі ўсё жыццё. А я ж мог стаць навукоўцам, ці пісьменнікам, ці нават прэзідэнтам... І ў суд я звярнуўся па сацыяльную рэабілітацыю і маральную кампенсацыю, каб здзейснілася хоць нейкая справядлівасць. Але ці многа я прашу? Колькі каштуе зламанае чалавечае жыццё?..*

Сапраўды, колькі каштуе зламанае жыццё?..

Калі Аляксандра Барушкова ў першы раз забралі ў псіхіятрычны шпіталь, у яго была сям'я — маладая жонка і дзве дачкі. Сям'я не вытрымала выпрабавання, распалася.

*— Мае дочкі ўжо дарослыя і павінны мяне зразумець. Я не мог даравадь жонцы таго, што яна не падтрымала мяне і так сябе павяла. Але Бог ёй суддзя. Я жыву ў вёсцы з другой сям'ёй ужо 15 гадоў. Заходжу ў краму і там сустракаюся з дочкамі... У чым я вінаваты? За што я мушу прасіць прабачэння? За тое, што ў мяне скралі жыццё? Вось на судзе юрысты Мінздрава кажуць мне: "Не мы вас саджалі..." А я ім: "З вашай дапамогай усё рабілася".*

Справа Аляксандра Барушкова была ў судзе амаль паўгода — прызначаліся пасяджэнні, а потым далейшы разгляд пераносіўся на іншыя даты. Аляксандр не можа зразумець: навошта было чакаць паўгода, каб адмовіць па ўсіх пазіцыях? Ён будзе абскарджваць рашэнне ў гарадскім судзе і перакананы, што там разбяруцца і ён пераможа. На суд першай інстанцыі ён пайшоў адзін, без адваката. І заяву напісаў сам так, як палічыў патрэбным, бо быў перакананы: паколькі праўда ўсё роўна на яго баку, то навошта браць абарону, калі і так усё відавочна?.. Насамрэч атрымліваецца, што вінаватых у зламаным лёсе чалавека і няма. Дый што там жыццё аднаго маленькага сярэднестатыстычнага чалавека? Тым больш што жывы, што не забілі ў тых клініках. Але яму не дае спакою думка, што жыццё не вечнае. І планы, якіх было шмат, не збыліся і ўжо ніколі не збудуцца. І адбылося гэта не ў часы сталінскіх рэпрэсій, а ў часы так званага "застою". І атрымліваецца, што ніхто не вінаваты — ні супрацоўнікі КДБ, ні медыкі... І што, ніхто за гэта адказваць не будзе?..

**Любоў ЛУНЁВА.**

АБЗАЦАМ

## На свае вочы

Місію назіральнікаў ад АБСЕ ў Беларусі ўзначаліць прадстаўнік Македоніі. Пра гэта паведаміў журналістам сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік. Чакаецца, што доўгатэрміновыя назіральнікі за парламенцкімі выбарамі прыедуць у Мінск 21 жніўня. Дарэчы, 27 назіральнікаў ад СНД ужо зарэгістраваліся ў ЦВК.

## У студэнтаў грошы ёсць...

З 1 верасня студэнты працягнуць аплачваць поўны кошт праезду ў грамадскім транспарце. Пра гэта падчас прамой тэлефоннай лініі паведаміў старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька. Нагадаем, што калі з 1 ліпеня льготу на аплату праезду для сталічных студэнтаў адмянялі, то ўлады абяцалі, што гэта будзе часова і што пытанне аб вяртанні льготы будзе разглядацца 1 верасня.

## Вярнулі за краты

Вязень Плошчы Васіль Парфянкоў, вызвалены ў жніўні 2011-га, зноў адпраўлены за краты. У чацвер у 7.50 раніцы за ім прыйшлі... Васіль Парфянкоў зноў адпраўлены за краты на 6 месяцаў за невыкананне умоў прэвентыўнага нагляду.

## Ліквідаваць!

Участак для галасавання пры Пасольстве Беларусі ў Швецыі створаны не будзе. Такое рашэнне прынята ў чацвер на пасяджэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі. Такім чынам, грамадзяне Беларусі, якія жывуць у Швецыі, прыняць удзел у выбарах у Палату прадстаўнікоў не змогуць.

## Паляваў на... хлопчыкаў

Следчым камітэтам завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да былога педагога-псіхолага адной з мінскіх школ, які абвінавачваецца ва ўчыненні злачынстваў, прадугледжаных арт.168 (палавыя зносіны і іншыя дзеянні сексуальнага характару з асобай, якая не дасягнула шаснаццацігадовага ўзросту), ч.3 арт.167 (гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару ў дачыненні да заведама малалетніх), ч.2 арт.343 (выраб і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў) Крымінальнага кодэкса. Як паведамілі ў Следчым камітэце, ахвярамі 22-гадовага абвінавачанага сталі больш як 10 падлеткаў. І, магчыма, гэта не канчатковы спіс. Пры гэтым геаграфія яго "дзейнасці" распаўсюджвалася не толькі на Мінск, але і на іншыя гарады краіны.

ЧУЛІ?

## Пётр Краўчанка заклікае выкупіць «Малую падарожную кніжыцу» Скарыны

*Прапанова прагучала падчас прэзентацыі кнігі Уладзіміра Арлова і Зміцера Герасімовіча "Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя".*

Былы міністр замежных спраў Беларусі паведаміў, што ўнікальная кніга Скарыны знаходзіцца ў Беларусі, у прыватным зборы былога журналіста. Выкупіць кнігу Краўчанка прапанаваў талакой — сабраўшы грошы ад усіх добраахвотнікаў. Нагадаем, што падобным чынам сёлета быў выкуплены арыгінальны "Статут Вялікага Княства Літоўскага".

Хто цяпер валодае кнігай Скарыны, Краўчанка не кажа. Паводле яго слоў, асобнік "Малой падарожнай кніжыцы" можа каштаваць ад 300.000 да 500.000 долараў, перадае Радыё Свабода.

"Малая падарожная кніжыца" Францішка Скарыны была надрукавана ў Вільні ў 1522 годзе. Агулам вядома пра 7 асобнікаў — без уліку згаданай Краўчанкам. Цалкам не захаваўся ніводны твор.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Пракурор запрасіў 15 гадоў

*У Століне завершаны судовыя спрэчкі па справе, якая ўскалыхнула Беларусь на самым пачатку гэтага года. Нагадаем, што ў навагоднюю ноч тут, у вёсцы Лядзец, была забіта 13-гадовая школьніца Юлія Ляшук.*

Пракурор запрасіў для злачынцаў максімальнага пакарання ў 15 гадоў пазбаўлення волі.

Адзін з абвінавачаных ужо выступіў з апошнім словам, але, паколькі працэс закрыты, адвакаты нічога пра яго расказаць не могуць. Вядома толькі, што другі абвінавачаны будзе выступаць у судзе ўжо пасля перапынку ў судзе, які працягнецца да 15 жніўня. Абодвум хлопцам, якія апынуліся на лаве падсудных, на момант здзяйснення злачынства было 17 гадоў. Яны з Юляй Ляшук былі аднавяскоўцамі.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

*Совсем недавно мы все стали свидетелями грандиозного разноса, который Александр Лукашенко устроил военным. Однако далеко не все согласны с тем, что проблема соответствия белорусской армии современным требованиям ограничивается только проколом пограничников и ПВОшников, которые прозевали шведский самолет, безо всяких препятствий долетевший до Минска.*

*Современная армия — это не генералы, не солдаты и даже не самое современное оружие. Современная армия — это передовая военная наука, это мозги.*

*Статью о состоянии военной науки, к которой сама собой просится рубрика "SOS!", подготовил доктор технических наук, профессор, заслуженный деятель науки Республики Беларусь, действительный член Академии военных наук Российской Федерации **Владимир КРУГЛИКОВ.***

# Превзойти инквизицию!

## или Кто и почему тормозит военную науку?

Объективным показателем развития науки является количество защищенных докторских и кандидатских диссертаций. За все время существования ВАК защитили диссертации только 1 доктор военных наук (В.К.Синявский, который единственный официально числится в статистике ВАК) и 67 кандидатов военных наук. Правда, за это же время защитили докторские диссертации (вот только в России) еще 4 белорусских офицера. Их диссертации так в России и остались.

Я считаю, что это связано не с тем, что наши люди поглупели или они недостаточные патриоты и поэтому отдали свой научный труд другой стране. Проблема в том, как работает ВАК и, в частности, экспертный совет № 32, который и курирует военную тематику.

За предыдущие шесть лет, когда еще С.Костромицкий не привел в ВАК своего подчиненного Л.Маркова, а А.Афанасьев не был председателем ВАК, в совете при Военной академии РБ по защите кандидатских диссертаций по военным наукам успешно защитили диссертации 40 (!) соискателей, и все получили свои дипломы. А вот дальше начались шесть лет беспредела и на защиту вышли всего 27 соискателей.

Этот период, по моему глубокому убеждению, следует считать лихолетьем военной науки. Так как из этих 27 соискателей ученых степеней кандидата военных наук, успешно защитивших свои диссертации в специализированном совете при Военной академии, восемь (!) диссертаций соискателей на этапе их прохождения в ВАК были отправлены назад, на повторную защиту, а девятый соискатель защищал свою работу трижды. Тема подполковника И.В.Ахремова после его успешной повторной защиты в совете оказалась отклоненной навсегда.

Я считаю, что это умышленное торможение военной науки. При участии Н.К.Никеенко, Л.Н.Маркова, С.М.Костромицкого, В.Ф.Голикова, Л.Л.Клюева и под руководством главы ВАК А.А.Афанасьева.

Из трех соискателей докторской степени вообще снять с прохождения ВАК диссертаций было предложено полковникам В.А.Малкину и С.В.Кругликову. В.А.Малкин согласился и спустя два года стал доктором наук. С.В.Кругликов отказался это делать из-за фальсификации отрицательного отзыва на свою работу.

Я свел в таблицу темы работ, которые не смогли пройти экспертизу ВАК с первого раза, несмотря на успешную защиту в специализированном совете при Военной академии..

| № п/п | Темы диссертаций | Соискатель | Год защиты |
|---|---|---|---|
| 1. | Обоснование состава и рекомендаций по тактике воинских частей и подразделений в операциях по поддержанию мира (утверждена ВАК в 2009 г.). | Подполковник А.П.Бандык | 2007 2009 |
| 2. | Совершенствование способов действий воинских частей и подразделений отдельной мобильной бригады (утверждена ВАК в 2009 г.). | Полковник В.Н.Киреев | 2007 2009 |
| 3. | Повышение эффективности планирования технического обеспечения войск оперативного командования в оборонительной операции (утверждена ВАК в 2009 г.) | Подполковник О.А.Ивчик | 2007 2009 |
| 4. | Совершенствование системы топогеодезического обеспечения Вооруженных сил Республики Беларусь. | Полковник В.К.Утекалко | 2005 2006 |
| 5. | Совершенствование применения отдельной бригады специального назначения при обеспечении правового режима чрезвычайного положения (утверждена ВАК в 2009 г.). | Подполковник А.А.Козлов | 2007 2009 |
| 6. | Применение отдельной специальной милицейской бригады в специальной операции по ликвидации незаконных вооруженных формирований (утверждена ВАК в 2009 г.). | Подполковник А.Н.Курмашев | 2007 2009 |
| 7. | Совершенствование управления артиллерией в оборонительном бою ОМБР (утверждена ВАК в 2009 г.) | Подполковник С.Н.Лаврик | 2006, 2007 2009 |
| 8. | Совершенствование боевого применения сил и средств радиационной, химической, биологической разведки (не утверждена ВАК) | Подполковник И.В.Ахремов | 2007 2009 |

Анализ тем отклоненных ВАК диссертаций свидетельствует, что все они исключительно актуальны для совершенствования системы обеспечения безопасности и обороны государства.

Как следует из таблицы, для устранения недостатков и повторной защиты отклоненных диссертаций требуется не менее двух лет. Это означает, что не только соискатель оказывается на два года законсервированным и находящимся в подвешенном состоянии. Это означает два года пробуксовки не просто диссертации как квалификационной работы, а два года отставания в межгосударственном научно-техническом соперничестве, в развитии целого научного направления, нереализацию и торможение целого комплекса рекомендаций и предложений, крайне важных для национальной безопасности государства.

Я считаю, что пора разобраться, на каком основании и в чьих интересах ВАК РБ в течение последних шести лет тормозил военную науку нашей республики.



### А кто эксперты?

Стоит только внимательно рассмотреть личные дела членов ВАК и членов экспертного совета №32 (в том числе А.А.Афанасьева), то сразу же бросится в глаза, что ни один из этих людей не имеет высшего военного образования. То есть ни один не оканчивал ни профильной Военной академии, ни Академии Генерального штаба, никто не имеет научных трудов по тактике, оперативному искусству или военной стратегии. Если брать более прикладные сферы, то у "экспертов" нет ни теоретических знаний, ни практического опыта, например по профилю АСУ зенитно-ракетных войск. Однако ВАК это не смущает. Хотя люди оценивают то, чего не знают и о чем имеют очень смутное представление.

В то же время в специализированном совете при Военной академии, в котором защищались соискатели ученой степени кандидата военных наук, принимали участие (по решению Президента Республики Беларусь) наиболее одаренные ученые в области военных наук из Российской Федерации. Это доктора военных наук, профессора, заслуженные деятели науки Российской Федерации. Назову только некоторые имена: генерал-лейтенант Виталий Александрович Сапожинский, генерал-майор Иван Николаевич Воробьев, генерал-майор Виктор Дмитриевич Рябчук, генерал-майор Юрий Викторович Кордашевский. За их плечами и научная работа в Академии Генерального штаба, и руководство войсками в боевых действиях. Это — элита военной науки наших государств, они участвовали в экспертизе всех без исключения диссертационных работ, в строгом соответствии с действующим Положением ВАК РБ. Результаты экспертизы во всех случаях были соответствующими принципам военной науки и практики, так же, как и принимаемые советом решения по результатам защиты. Но, выйдя на уровень ВАК, работы вдруг оказывались плохими и их разворачивали. Причем, кто принимал решения в экспертном совете №32, я уже говорил выше.

Теперь — по существу снятия диссертаций на повторную защиту. Я осмелюсь утверждать, что практика эта носит умышленно антигосударственный характер.

Во-первых, "ВАК вправе возвратить диссертацию в совет для повторного рассмотрения" в одном случае: если было "выявлено нарушение советом по защите диссертаций требований по процедуре защиты". Ни в одном из рассматриваемых случаев такого выявлено не было.

Во-вторых, работа может быть снята по письменному заявлению соискателя для повторного представления к защите, но уже в самом совете по защите диссертации, до начала тайного голосования.

ВАК Беларуси, руководимой Анатолием Афанасьевым, превзошел средневековую инквизицию, которая даже Копернику и Джордано Бруно давала трибуну для выступления, доказательства и выражения своих взглядов. Соискателю Кругликову было дважды отказано в праве выступить перед Президиумом ВАК и апелляционной комиссией. На мой взгляд, это лишний раз свидетельствует о преднамеренности при подготовке отрицательного заключения экспертного совета и при протаскивании этого заключения через Президиум и апелляционную комиссию.

Я лично всю жизнь посвятил военной науке и поэтому ответственно заявляю:

1.ВАК РБ является организацией абсолютно безнравственной, так как позволяет некомпетентным людям не только фабриковать отрицательные заключения на настоящие научные работы, признанные известными учеными и специалистами, но и протаскивать эту фальсификацию через Президиум и апелляционную комиссию, искусственно затормаживая тем самым развитие отечественной науки.

2.Научность и объективность в существующем ВАК отсутствуют, поскольку в Президиуме ВАК, у членов их экспертных советов, нет доверия к мнению других ученых и специалистов.

Несмотря на многолетнее и многократное ужесточение требований со стороны ВАК к выполнению и оформлению диссертаций, процент их отклонения не уменьшается, а, наоборот, возрастает. Иногда представители ВАК даже хвастаются этим. Но дело все-таки не в научности и не в требованиях. Наоборот, эта попытка людей гибельна в условиях возрастания межгосударственного соперничества, геополитической напряженности и высокой скорости происходящих информационно-управленческих процессов. Наука просто не успевает реализовывать свои функции.

### Своя наука ближе к телу

Одна из не утвержденных президиумом ВАК диссертаций, о которых я писал, — работа Сергея Владимировича Кругликова. Это мой сын. И я горжусь тем, что сын как ученый в чем-то даже превзошел меня. Он разработал оружие защиты от современного агрессора, которому нет аналогов в мировой практике. Российские ученые — специалисты в этой области, проводившие независимую экспертизу работы, официально дали ей самую высокую оценку. Причем его разработки легко реализуемы. Почему же он не прошел "фильтр" ВАК?

Должен изложить свое видение, поскольку это показательная история, показывающая, как личные мотивы, месть, некомпетентность могут вредить государственному делу.

С одним из членов экспертного совета №32 Сергеем Костромицким у меня случился весьма острый конфликт. И я его помню, и он его помнит, и многие военные о нем знают.

В свое время я подготовил разгромный ответ ВАК на отрицательный отзыв С.М.Костромицкого на успешно защищенную в специализированном совете при Военной академии диссертацию на соискание ученой степени кандидата военных наук тогдашним начальником разведки ВВС и ВПВО полковником Владимиром Владимировичем Фроловым. В своем ответе я обосновывал некомпетентность и неграмотность С.М.Костромицкого не только в военных, но и в технических науках. Однако отрицательный и необъективный отзыв Костромицкого сыграл свою роковую роль в судьбе полковника Фролова. Конечно, он очень переживал из-за всего этого. И вскоре трагически скончался прямо на центральном командном пункте ВВС и ВПВО. Результатом моего обоснования тогда стало присвоение Владимиру Фролову ученой степени, но уже посмертно (материалы по данному делу, являющиеся секретными, обязаны хранить в ВАК РБ).

Следующий момент. С двумя членами экспертного совета №32 — С.М.Костромицким и Л.Н.Марковым — Военная академия в свое время расторгла контракты. Они длительное время числились на полставки ведущими научными сотрудниками лабораторий НИЧ Военной академии. Ну а потом эти отношения было решено разорвать. Начальником НИЧ как раз и являлся мой сын, Сергей Кругликов. Когда увольняли Л.Н.Маркова (он же — председатель совета), как раз экспертизу в ВАК проходила диссертация Сергея. И отзыв оказался отрицательным. Хотя ни один из членов "профильного" экспертного совета №32 ВАК РБ не мог ни теоретически, ни практически быть экспертом по этой диссертации, так как:

— не имея профильного образования по специальности АСУ, член экспертного совета не может считаться специалистом в этой области;

— не имея опыта работы на автоматизированном командном пункте зенитной ракетной бригады (полка), нельзя быть специалистом АСУ ЗРВ;

— нельзя быть экспертом и специалистом человеку, не имеющему научных трудов в этой области.

Ни по одному из обозначенных критериев ни один из членов экспертного совета для роли эксперта по данной диссертации не подходил. Тем не менее ничтоже сумняшеся они вынесли отрицательное решение. Причем даже попытались его обосновать: мол, два из трех оппонентов по диссертации на совете в академии являлись некомпетентными. Кто бы уже о компетентности и некомпетентности говорил! Потому что оппонентами были известные и уважаемые люди, авторитеты именно в данной научной сфере.

Во-первых, профессор Михаил Батура, в свое время он оканчивал МРТИ именно по специальности АСУ и является специалистом в области автоматических систем.

Во-вторых, управление немыслимо без информации, тем более автоматизированное. Именно эта сторона диссертации была оценена ученым с мировым именем в области новейших информационных технологий, академиком НАН РБ и Европейской академии наук Сергеем Абламейко.

Третий оппонент — профессор Василий Булойчик, выпускник факультета АСУ ЗРВ Военной академии.

Так по какому праву неспециалисты указывают специалистам? И как в таких условиях может развиваться современная наука?

**Владимир КРУГЛИКОВ, доктор технических наук, профессор, заслуженный деятель науки Республики Беларусь, действительный член Академии военных наук РФ.**

